

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №6 (93)**
**КРАСАВІК 2019 ГОДА**

**ФАРМАЛІЗМ**

# «НЕСПРАВЯДЛІВА ЎСЁ ГЭТА...»

**Чатыры гады таму браты Мішурныя зь вёскі Копці Віцебскага раёну знайшлі ў лесе парэшткі чырвонаармейцаў і атрымалі за гэта падзяку ад міністра абароны. Але праз некаторы час — за тое ж самае! — былі аштрафаваныя на 2 млн. рублёў. У пошуках справядлівасьці напісалі сёлета міністру Раўкову, але той адказаў фармальнай адпіскай...**

5 ліпеня 2015 году жыхары вёскі Копці браты Уладзімер і Кірыл Мішурныя дзякуючы шчасьлівай выпадковасьці знайшлі ў лесе парэшткі і рэчы двух савецкіх вайскоўцаў — Макара Ласкутова ды Пятра Мельнічэнкі. Гэтак, праз 70 гадоў пасьля вайны сталі вядомыя прозьвішчы двух салдатаў, якія лічыліся зьніклымі бязь вестак.

«У лесе мы з братам зьбіралі мэталялом. Працы ў мяне тады не было, а грошы былі патрэбныя. Зь зямлі тырчэла жалязяка, пачалі цягнуць. Вывернулі, а пад ёй косьці, мэдаль, брытва...» — расказвае Уладзімер Мішурны.

«Хачу падкрэсьліць, што мы нічога не капалі. Зразумелі, што натрапілі на парэшткі савецкіх салдатаў. Падабралі ўсё дарэшты ды занесьлі ўдзельніку вайны Віктару Цярэшчанку, стваральніку вайсковага мэмарыялу ў вёсцы Копці. Той узрадаваўся, напісаў ліст у газэту „СБ — Беларусь сегодня“. Нічым добрым, праўда, гэта для нас ня скончылася: чыноўнікі прачыталі публікацыю, выклікалі мяне ў райвыканкам і афармілі адміністрацыйны пратакол,» — дадае Ўладзімер.

Адміністрацыйная камісія Віцебскага райвыканкаму палічыла, што хлопцы парушылі заканадаўства і аштрафавала іх на 10 базавых велічыняў (на той час — 1 млн. 800 тыс. рублёў). Чыноўнікі не ўзялі пад увагу ні выпадковасьць, ні вартасьць знаходкі, ні падзяку, выказаную братам Мішурным міністрам абароны Раўковым.

Да 2019 году Ўладзімер Мішурны штраф не аплочваў, спадзяючыся на нейкі цуд. Напісаў электронны ліст у Мінабароны, распавёў акалічнасьці справы і чакаў. Адказ уразіў яго сваёй фармальнасьцю.

«Міністэрства абароны да органаў, якія вядуць адміністрацыйны працэс па згаданым артыкуле, не адносіцца. Парадак абскарджаньня накладзенага адміністрацыйнага спагнаньня вызначаны адміністрацыйным заканадаўствам», — суха паведамілі з Мінабароны.

«З адказу бачна, што ў акалічнасьці справы ніхто не заглыбляўся. Ім падалося дастатковым таго, што мы выцягнулі парэшткі зь зямлі без дазволу, і з фармальнага боку штраф нібыта абгрунтаваны. Але я мяркую, што артыкул 19.7 КаАП (Парушэньне парадку ўскрыцьця вайсковых пахаваньняў альбо правядзеньня пошукавых работ) мусіць прымяняцца супраць тых, хто атрымлівае ад падобных дзеяньняў нейкую карысьць. Але ці быў з нашага боку хаця б які злы намер? Гэта ўсяго толькі зьбег абставінаў, шчасьлівы выпадак. Я ж ня ішоў туды мэтанакіравана капаць з рыдлёўкай...» — тлумачыць Уладзімер Мішурны, нібыта працягваючы адрасаваць гэтыя словы міністру абароны.

«Можна было б пагадзіцца са штрафам, каб нас за руку схапілі на „месцы злачынства“, але мы па добрай волі прынесьлі ўсё, што знайшлі. Зрабілі добрую справу. Мне і тая ўдзячнасьць ад міністра непатрэбная была. Ня дзеля яе мы тыя парэшткі зь лесу цягнулі, а дзеля таго, каб нехта не натрапіў на іх, пакуль мы літары закону будзем прытрымлівацца. Але ўсім усё адно. Несправядліва ўсё гэта...» — не хавае эмоцыяў наш суразмоўца.

Як распавёў Уладзімер Мішурны, летась на магілу Макара Ласкутова прыяжджала дачка загінулага Марыя Макараўна са Смаленскай вобласьці. Дзякавала ўсім і за знаходку, і за ўсталяваны помнік. Яна жахнулася, калі дазналася, што іх з братам аштрафавалі. Не магла ўявіць сабе, што такое мож быць.

На наступны дзень пасьля ад'езду прыслала заказным лістом фотаздымак, на адваротным баку якога напісала словы ўдзячнасьці абодвум братам.

У сакавіку 2019 году Ўладзімер зьвярнуўся ў галоўнае ўпраўленьне ідэалягічнай працы і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкаму, але і там да справы паставіліся фармальна. Проста адпісаліся, што пастанову можна было абскардзіць цягам 10 содняў. Больш нічога...

**Якаў Дрозд**



**ІНІЦЫЯТЫВА**

# ЦІ ПАЎСТАНЕ КУЛЬТУРНЫ ЦЭНТАР?

**Сядзіба вядомага батаніка Ўладзімера Адамава, зьмяніўшы шэраг гаспадароў, стала ўласнасьцю вядомага ў Віцебску прадпрымальніка і культурнага дзеяча Максіма Жукава. Ён марыць ператварыць занядбаную сядзібу ў культурны цэнтар.**

Згодна зь інвэстпраектам, новы гаспадар за тры гады мусіць давесьці да ладу дом, прылеглую тэрыторыю і зрабіць месца прыцягальным для правядзеньня фэстываляў і культурніцкіх імпрэзаў.

Наогул сфэра дзейнасьці Максіма Жукава, які працаваў раней гукарэжысэрам на віцебскіх радыёстанцыях, уражвае разнастайнасьцю. Гэта і правядзеньне мерапрыемстваў, і арганізацыя канцэртаў, і прадусарскія праекты, і выступы на міжнародных канфэрэнцыях. Увосень Максім плянуе выступіць у Варшаве – з дакладам аб сядзібе Ўладзімера Адамава.

У 2017 годзе Максім Жукаў упершыню дазнаўся пра сядзібу, наведаўшы "Адамаўскі фэст", на які быў запрошаны ягоным арганізатарам краязнаўцам Міхаілам Дукам.

"Я ўбачыў закінуты дом, але само месца мне вельмі спадабалася. Можа, цудоўнае надвор'е на мяне паўплывала, ці выдатныя людзі на фэсьце, ці сама імпрэза, ці само гэтае месца з тысячагадовай гісторыяй – не скажу дакладна, але сядзіба мне запомнілася. Тады ў яе быў іншы ўласьнік. Але за 2,5 гады ён там нічога не зрабіў, і дом у яго забралі. Цяпер гэта мая ўласнасьць. Але калі за тры гады я свае абавязкі ня выканаю, то такі ж лёс напаткае і мяне. За гэты час, паводле ўмоваў інвэстпраекту, трэба ўкласьці ў сядзібу каля 50 тыс. рублёў", – расказвае Максім Жукаў.

"…Ніякіх ілюзій у мяне няма – я разьлічваю перадусім на ўласныя сілы. Пакуль не пачнеш скардзіцца, ніхто з чыноўнікаў варушыцца ня хоча. Вось напісаў заяву ў раённую экалёгію, старшыні райвыканкаму. Здаецца, ёсьць нейкія зрухі. У суботу сіламі працаўнікоў дзіцячага дому прыбяром тэрыторыю. Прыедуць валянтэры з гораду. Абяцалі даць машыну, каб вывезьці сьмецьце. Зараз ідзе афармленьне дакумэнтацыі. Акрамя таго, у вольны час прыбіраем сьмецьце з пакояў", – распавёў новы ўласьнік сядзібы Адамава.

Паводле Жукава, умовы інвэстпраекту не прадугледжваюць капрамонту цягам трох гадоў. Але плянуецца бягучы рамонт даху, вокнаў, дзьвярэй, трэба правесьці электрычнасьць, водапravод, каналізацыю.

"На заднім двары плянуем сабраць сцэну, але для гэтага трэба зьнесьці сараі, а новых месцаў пад хлявы людзям пакуль ня далі. Неабходна, каб было прадпісаньне Лятчанскага сельсавету, а рабіць ён гэта ня хоча. Усё гэта вымагае шмат высілкаў. Уладальнікі хлявоў жывуць у розных месцах, і зь імі трэба дамаўляцца. Бясконцая папяровая праца. І пакуль гэты заблытаны клубок не разблытаеш, выконваць умовы інвэстпраекту немагчыма", – кажа Максім Жукаў.

Максім Жукаў спадзяецца, што да 2021 году адкрые ў сядзібе міні-гатэль – і для ўдзельнікаў імпрэзаў, і для тых, хто пажадае адпачыць у гістарычным будынку ўлетку. Абяцае эксклюзіў.

"Мяркуем зрабіць некалькі пакояў у старой частцы будынку, дзе, переначаваўшы пад старажытнымі скляпеньнямі, госьці адчуюць сябе сярэднявечнымі жыхарамі... Хто ведае, можа, да іх нават які мясцовы прывід завітае ў гатэльны пакойчык", – усьміхаецца Максім.

Новы ўласьнік сядзібы Адамава марыць стварыць тут культурны цэнтар, падобны да Белай Царквы ў Чашніцкім раёне, дзе вядомы кінарэжысэр Мацьвей Сабурай ладзіць фэстываль "Справа" (сёлета адбудзецца ўжо трэці па ліку).

"Наш праект ня будзе мець гэткага маштабу, бо мы абмежаваныя тэрыторыяй – ад сядзібы да абрыву возера. На падобныя летнія фэсты тут могуць сабрацца хіба 300-400 чалавек. Натуральна, што ў чэрвені плянуем правесьці тут пяты, юбілейны, "Адамаўскі фэст". А напрыканцы жніўня плянуем фэстываль мапэдаў. Есьць таксама папярэдняя дамова з вядомым віцебскім фатографам Аляксеем Карасёвым на правядзеньне фотазьлёту. Таму важна як найхутчэй прыбраць тэрыторыю ды правесьці электрычнасьць", – падзяліўся плянамі Максім Жукаў.

Максім расказаў, што на другім паверсе дому пад шпалерамі быў выяўлены накат – дэкаратыўная штампоўка пэўнага колеру і формы, выкананая непасрэдна на тынкоўку. Пад шпалерамі адкрылі таксама першы арыгінальны колер, у які былі пафарбаваныя сьцены – ультрамарынавы. То бок экстэр'ер дому раней быў не чырвоны, як зараз, а нябесны, ці маркі. І новы гаспадар плянуе вярнуць сядзібе аўтэнтычны колер.

Ён распавядае, што папярэдне ўжо дасьледавалі сядзібу разам з з рэстаўратарам Яўгенам Калбовічам.

"Зазірнуўшы ў падвал, переканаліся, што сядзіба гэтая не XIX стагодзьдзя, а як мінімум – XVII. Знайшлі ў лёхах і тагачасны падземны ход. Высьветлілі, дзе першапачаткова знаходзіўся галоўны ўваход. Мяркую, што наперадзе нас чакаюць новыя досьледы і адкрыцьці", – гаворыць Максім Жукаў.

"Гэта вельмі добра, што ў нас зьявіўся новы гаспадар сядзібы Уладзімера Адамава. Раней мы тут наводзілі парадак, рабілі клюмбы, шыльду на будынку павесілі, каб не згубілася імя знакамітага батаніка. Сюды прыяжджалі экскурсіі, праводзіліся фэсты. Таму з радасьцю будзем дапамагаць яму, будзем рабіць усё, што ад нас залежыць. І вяскоўцы радыя, і мы, бо зьявілася надзея на працоўныя месцы. Ёсьць, праўда, тыя, хто бурчыць і ня верыць, бо, маўляў, у папярэдніх гаспадароў нічога не атрымалася, але такіх няшмат", – выказала аптымізм загадчыца гаспадаркай Лятчанскага дзіцячага сацыяльнага прытулку Ірына Юпатава.

Больш ляканічна выказаўся мясцовы жыхар Анатоль Кандрацьеў: "Я рады. Бо ўсё тут занядбана, а так хочацца, каб было хораша…"

**Ян Сведка**

ЖЫЦЦЦЁВЫЯ ГІСТОРЫІ

# ВИТЕБЧАНКА ПРО РАБОТУ В ПОЛЬШЕ

**Наверняка, многие хотя бы раз задумывались о том, чтобы сменить свое место жительства. Пока некоторые думают, кто-то делает. Так 30-летняя жительница Витебска,полгода назад решила уехать на работу в Варшаву.**

Ольга искала работу в Варшаве, еще находясь в Беларуси. По ее словам, это несложно, главное зарегистрироваться на сайтах вакансий, грамотно составить резюме и разослать потенциальным работодателям. Можно, конечно, попробовать искать работу через агентства, но, как правило, там помогают трудоустроиться на рабочие специальности, например, в сфере строительства, а Ольга подыскивала варианты в турбизнесе.

В результате, когда я ехала туда, у меня было несколько вариантов работы — меня пригласили на собеседования. К тому же я могла не переживать, что нужно быстро трудоустроиться — благодаря шенгенской визе я могла находиться в Польше некоторое время, — отметила Ольга.

Основная трудность — работодатель должен захотеть взять на работу белоруса и оформить ему все необходимые документы — краткосрочный трудовой договор и приглашение на работу на полгода (oświadczenie), чтобы специалист мог получить рабочую визу.

Я успешно прошла не одно собеседование, и многие потенциальные работодатели говорили о том, что готовы меня взять, но ленились заниматься оформлением документов. Они сами признавались, что белорусы хорошие работники, что их все устраивает, но жаль тратить время на бумажную волокиту, — вспомнила Ольга.

В результате витебчанка устроилась на работу в туристическую фирму, которая отправляет поляков в туры на Балканы, в Россию (Москва и Санкт-Петербург), страны Балтии и другие.

Например, на майские праздники от нашей фирмы в Беларусь едут три автобуса. Чаще поляки выбирают «западный» тур (Гродно-Новогрудок-Василишки), но и «восточный» (Витебск-Полоцк-Минск) тоже востребован. Поездка рассчитана на 5 дней. В стоимость входит проезд в автобусе, ночлег в двухместном номере в местных гостиницах, сопровождение, страховка, виза и гид по прибытию. Дополнительно требуются деньги, чтобы оплатить входные билеты в местные музеи и на питание, — рассказала витебчанка.

В Варшаве Ольга снимает комнату. По ее словам, это абсолютно нормальная практика, когда, например, люди чуть старше 30 снимают квартиру на двоих или троих. Это и удобнее и дешевле.

Для сравнения однокомнатная квартира на месяц стоит не менее 1600-1700 злотых, причем, это жилье с очень маленькой площадью — 25-30 квадратных метров.

За свою же комнату молодая женщина платит 900 злотых (примерно 450 белорусских рублей). Живет она в трехкомнатной квартире, а ее соседи — девушки из Польши и Украины.

Может, мне повезло, но я никогда здесь не сталкивалась с негативом. Никто ни разу не сказал мне, мол, чего ты сюда приехала, отправляйся домой. Впрочем, многие поляки практически ничего не знают о Беларуси, разве что слышали про Гродно и Брест. В местных СМИ довольно мало информации о нашей стране, да и новости преподносятся в другом ключе. Как мне показалось, поляки больше сосредоточены на своей внутренней жизни, чем на том, что происходит в соседних государствах, — заметила Ольга.

Интересно, что когда отмечался международный день родного языка, кафедра белорусистики в Варшаве проводила диктант на белорусском для всех желающих. Правда, людей было немного — всего 18 человек. Но, возможно, некоторые просто в это время могли работать.

Конечно, первое время в Варшаве было непросто. Психологически тяжело осознавать, что в чужой стране ты одна, не к кому обратиться за помощью, поплакаться в жилетку. Но, с другой стороны, и времени не было сесть и пожалеть себя — нужно было решать много вопросов: с жильем, работой, счетом в банке, документами, — рассказала Ольга.

Витебчанка призналась, что пока не решила, готова ли прожить в Польше всю жизнь. Но при этом отметила, что, несмотря на все сложности, ей в Варшаве нравится.

**«Витебский курьер»**

ПРАВЫ

# МІЛІЦЫЯ КАМПЭНСУЕ ЗЬНІШЧЭНЬНЕ СЬЦЯГУ

**Міліцыя мусіць выплаціць актывісту 8,72 рублёў за зьнішчаны на БНР-100 сьцяг.**

Суд Першамайскага раёну Віцебску часткова задаволіў пазоўныя патрабаваньні Міколы Качурца, які прасіў спагнаць з Кастрычніцкага РАУС 42 рублі за зьнішчаны ў 2018 годзе бел-чырвона-белы сьцяг. Судзьдзя Алена Савіцкая ацаніла шкоду на 8 рублёў 30 капеек.

Паводле рашэньня суду, міліцыя мусіць таксама сплаціць актывісту частку судовых выдаткаў – 42 капейкі. Агулам атрымліваецца – 8,72 рублёў. Гэтая сума будзе выплачаная з рэспубліканскага бюджэту.

На судовым паседжаньні 24 красавіка Мікола Качурэц дакумэнтальна абгрунтаваў кошт прычыненай шкоды (42 рублі). Прадставіў суду прайс з інтэрнэт-крамы Symbal.by, дзе бел-чырвона-белы сьцяг каштуе 20 рублёў, а таксама – дакумэнты аб коштах дрэўка (палімерная трубы) і квіткоў для паездкі да Менску і назад.

Міліцыянт Дзьмітрый Жук, які прадстаўляў у судзе Кастрычніцкі РАУС, заявіў, што ня згодны з запатрабаванай сумай іску. Паводле адказчыка, зьнішчаны сьцяг быў ня новы, выглядаў кепска, і яго "можна было б ацаніць на вагу рызьзя". Тым ня менш, Жук папрасіў суд далучыць да справы прайсы з крамы "Сялена", дзе можна набыць тканіну белага і чырвонага колераў па цане 2,50 руб. за 1 м., а таксама – даведку ад швачкі, якая ўзялася б вырабіць падобны сьцяг за 7 рублёў.

Але аказалася, што пры вызначэньні сумы кампэнсацыі судзьдзя Алена Савіцкая кіравалася выключна лічбамі, якія суд сам атрымаў праз запыты ў віцебскі ўнівэрмаг, на швейнае прадпрыемства "Труд-Віцебск" і ў "Дом сантэхнікі". Паводле атрыманай інфармацыі, тканіну для сьцяга (0,5 м. X 1,5 м.) можна купіць за 1,39 рубля, пашыць сьцяг – за 2,50 рубля, набыць трубу для дрэўка – за 4,41 рубля. Агулам – 8 рублёў 30 капеек.

Качурэц: "Зразумела, што за гэтыя 8,72 рублі я не змагу ані купіць, ані пашыць новы сьцяг. Суд занізіў ягоны кошт у разоў пяць. Тым ня менш, лічу гэтае рашэньне маленькай перамогай, першым крокам у нашым змаганьні за бел-чырвона-белы сьцяг", – сказаў пасьля суду Мікола Качурэц.

Віцебскі праваабаронца Леанід Сьвецік кажа, што гэта першы (прынамсі ў Віцебскай вобласьці) выпадак, калі міліцыя будзе вымушаная вярнуць кошт зьнішчанага нацыянальнага сьцяга яго ўладальніку. Але дадае, што рашэньне судзьдзі нельга назваць бесстароньнім.

"Шкада, што грамадзянскі пазоў палітычнага актывіста Міколы Качурца к супрацоўнікам міліцыі, суд задаволіў толькі часткова. Бо доказы сумы іску былі пераканаўчыя і аргумэнтаваныя дакумэнтальна. Суд фактычна ўзяў на сябе пошук такіх доказаў, якія спрыялі максымальнаму зьніжэньню кошту сьцяга, а ў выніку – памяншэньню выплаты матэрыяльнай шкоды з боку адказчыка. У гэтым выпадку нельга назваць рашэньне суду бесстароньнім і справядлівым у дачыненьні да пазоўніка", – пракамэнтаваў рашэньне суду праваабаронца Леанід Сьвецік.

Нагадаем, у 2018 годзе на Дзень Волі Мікола Качурэц выйшаў зь бел-чырвона-белым сьцягам да помніку князю Альгерду ў Віцебску, быў затрыманы і аштрафаваны Кастрычніцкім судом на 30 б.в. (ч.2 арт. 23.34 КаАП і 23.4 КаАП).

**Зьміцер Міраш**
**«Віцебская вясна»**

ГВАЛТ

# ПОЧЕМУ ЖЕНЩИНЫ ТЕРПЯТ ТИРАНОВ?

**Житель Витебского района два года регулярно избивал свою мать.**

Подобные сообщения о людях, которым приходится терпеть издевательства родных, нередки в криминальных сводках северного региона. Жертвам домашнего насилия готовы помочь в территориальных центрах социального обслуживания населения.

Психолог ТЦСОНа Железнодорожного района Витебска Наталья Прусакова отмечает, что сами пострадавшие от семейных агрессоров, увы, не всегда обращаются за помощью. Видимо, не хотят огласки, полагая, что справятся с проблемами самостоятельно.

— Обычно о неблагополучной семейной обстановке сообщает милиция, гораздо реже соседи или родственники пострадавших, — рассказывает Наталья Прусакова. — Кроме того, сотрудники ТЦСОНа могут выявить случаи домашнего насилия в ходе плановых посещений находящихся в социально опасном положении семей.

Важно, чтобы человек, пострадавший от семейного агрессора, согласился на содействие в решении его проблемы.

На территории Железнодорожного района Витебска действует межведомственный совет по оказанию помощи жертвам насилия в семье.

В его состав входят представители районной администрации, ТЦСОНа, ОВД, учреждений здравоохранения и образования, которые подписывают информированные согласия у жертв насилия в семье и представляют их в ТЦСОН для дальнейшей работы со специалистами. Так, ОВД администрации Железнодорожного района за прошлый год направил в ТЦСОН 214 таких согласий.

— По телефону мы объясняем пострадавшим, что в нашем центре они могут получить психологическую, правовую, материальную и другую помощь, — говорит Наталья Прусакова. — Также информируем о возможности воспользоваться услугами временного приюта в «кризисной» комнате.

Это помещение имеет отдельный вход, оборудовано необходимой для комфортного проживания трех человек мебелью, посудой, бытовой техникой. При этом жертва домашнего насилия перед заселением подписывает документ о неразглашении данного адреса.

С переездом в «кризисную» комнату привычный график у людей не меняется, они живут своей жизнью.

Однако здесь можно эмоционально отдохнуть и дистанцироваться от конфликтной ситуации, продумать свою дальнейшую стратегию.

— Мы проводим психологическое консультирование, работу по социальному ориентированию, содействуем в решении возникших проблем, — поясняет психолог. — В некоторых случаях специалисты центра с согласия пострадавших ищут возможности примирения с агрессором.

Когда это невозможно, то в зависимости от жизненной ситуации жертв, мы им предлагаем либо найти съемное жилье, либо обратиться к работодателю с просьбой о выделении места в общежитии, либо направляем в районную поликлинику для помещения на социальную койку, либо помогаем оформить документы в дом престарелых.

Среди жертв домашнего насилия желающих воспользоваться услугой временного приюта крайне мало. В прошлом году в Железнодорожном ТЦСОНе таких было пять человек.

По словам собеседницы, люди часто становятся жертвами домашнего насилия из-за того, что позволяют родным жестоко обращаться с собой. При этом физическому насилию зачастую предшествует психологическое.

— Угнетенность и подавленность из-за общения с родными — явные признаки психологического насилия, — поясняет специалист. — Бывает, что близкий человек не бьет, но регулярно оскорбляет или унижает. Не стоит это терпеть, боясь выносить сор из избы или надеясь, что домашний тиран перестанет издеваться. При первых признаках психологической агрессии следует обращаться в центры помощи жертвам домашнего насилия.

**«Витебские вести»**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***





АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЧАМУ ТАК І НЕ АДБЫЛАСЯ ІНТЭГРАЦЫЯ ІНТЭГРАЦЫЙ

**Марыць не шкодна, у тым ліку і разважаць пра магчымасць працаваць паводле аднолькавых правілаў на рынку ад Атлантыкі да Ціхага акіяну.**




Як добра, што памыйка (інтэрнэт) не пакутуе на амнезію. Набіраю ў пошукавіку «інтэграцыя інтэграцый» — і адразу ж знаходжу артыкул адзінага палітыка (АП) «Аб лёсах нашай інтэграцыі», апублікаваны ў газеце «Известия» 17 кастрычніка 2011 года.

Добрыя былі часы! У той год кожнаму ахвочаму зазірнуць за гарызонт зусім не было патрэбы караскацца на вяршыню гіганцкай секвоі. Можна было абысціся хвояй ці хацяб бярозкай. Не патрэбны быў і маркі бінокль — хапіла б і тэатральнага, каб, разгойдваючыся на галінцы, па складах і з выразам прачытаць, напрыклад, наступны фрагмент артыкула АП: *«Грандыёзны, але цалкам рэалістычны праект стварэння Еўразійскага саюза тоіць вялізныя выгады для ўсяго кантынента. Магчымасць працы паводле аднолькавых правілаў на рынку ад Атлантыкі да Ціхага акіяна ўмацуе экспартны патэнцыял нашых прадпрыемстваў і прывабнасць нашых эканомік для замежнага бізнесу»*.

Спалучэнне грандыёзнасці з рэалістычнасцю на стадыі распрацоўкі праекта — гэта наша ўсё. Яго ніхто ў нас не забярэ. Мяркую, па той жа прычыне, па якой не злавілі «Няўлоўнага Джо» (якога — калі хто забыўся — ніхто і не спрабаваў злавіць).

Тым не менш падстава для хваляванняў ёсць, таму прапаную пагладзець афіцыйную статыстыку. Але каб не марнаваць час на гартанне даведнікаў, я звярнуся па дапамогу да расійскага эканаміста Ігара Нікалаева, які істотную частку руціннай працы ўжо зрабіў: «Калі ў 2000 годзе доля Расіі ў беларускім экспарце складала 84,3%, то ў 2018 годзе — толькі 38,5%, у Казахстане вага Расіі за мінулыя гады знізілася з 19,5% да 8,5%, ва Украіне — з 34,5% да 7,7% (ну, Украіна наогул асаблівы выпадак). З імпартам з Расіі за гэтыя гады адбывалася тое ж самае. У Беларусі яго доля знізілася з 92,3% да 59,2%, у Казахстане — з 48,7% да 38,1%. Ва Украіне — з 26,2% да 14,2%».

**А ці быў хлопчык?**

Дынаміка імпарту-экспарту — гэта для спецыялістаў. Простага чалавека такія лічбы не цікавяць. Але меў рацыю, тройчы меў рацыю АП, які знайшоў патрэбныя словы ў адказ на русафобскія стогны «пятай калоны»: *«Людзям трэба на справе паказаць, што канкрэтна ім дасць гэты новы саюз. Даказаць, што інтэграцыйныя памкненні — не палітычныя ігрышчы, а рэальныя перадумовы далейшага паляпшэння дабрабыту чалавека»*.

АП, калі працаваў над тэкстам артыкула для газеты «Известия» ў 2011 годзе, натуральна, быў вымушаны пісаць у будучым часе. Але мне сёння ніхто не перашкаджае казаць не пра перспектывы, а пра дасягненні.

У лютым сярэдні беларускі працаўнік зарабіў 977,6 рубля, або 466 у доларавым эквіваленце. Да запаветных 500 долараў («святой лічбы»), упершыню паабяцаных яшчэ ў снежні 2009 года, дацягнуць так і не атрымалася. Дзесяць гадоў — два прэзідэнцкія тэрміны — праляцелі як адзін дзень! Але праляцелі яны нездарма, бо іх палёт суправаджаўся беспярэпыннай дэманстрацыяй пераваг інтэграцыі інтэграцый. Ёсць што прыгадаць. Ёсць што расказаць дзецям і ўнукам.

За дзесяць гадоў «тлустыя нулявыя» ў Беларусі плаўна змяніліся «худымі дзясятымі» — і тое, што ўстойліва расло, гэтак жа ўстойліва пачало зніжацца. У Расіі — тая ж карціна. Праблемы ў яе эканомікі выразна выявіліся ў канцы 2012 года, г.зн. яшчэ да «крымнаша» з яго санкцыямі і контрсанкцыямі.

Чаму ж *«вестка аб фармаванні новага магутнага адзінага рынку з надзвычай сур'ёзным вытворчым, рэсурсным, інтэлектуальным патэнцыялам»*, якая, на думку АП, не выклікала ў знешніх цэнтраў энтузіязму, так і не ўвасобілася ў жыццё?

Тут самы час, як герой рамана пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага «Жыццё Кліма Самгіна», выгукнуць: «А ці быў хлопчык?». У нашай сітуацыі гэта азначае сумнеў у наяўнасці згаданых вышэй рэсурсаў і патэнцыялу.

Пра эканамічны патэнцыял любой краіны ў наш час прасцей за ўсё меркаваць па структуры яе экспарту. Вось які ён быў у 2018 годзе ў Расіі — найбуйнейшай дзяржавы Еўразійскага эканамічнага саюза:

мінеральныя прадукты — 64,79%;

металы і вырабы з іх — 9,88%;

прадукцыя хімічнай прамысловасці — 6,09%;

харчовыя тавары і сельскагаспадарчая сыравіна — 5,53%;

машыны, абсталяванне і транспартныя сродкі — 5,13%;

драўніна і цэлюлозна-папяровыя вырабы — 3,10%;

каштоўныя металы і камяні — 2,24%.

Пытанні ёсць? Пытанняў няма. 5% машын, абсталявання і транспартных сродкаў — такія лічбы ў каментарах не маюць патрэбы…

**Дзе блат, там і карупцыя**

Ад эканамічнай статыстыкі пяройдзем да азбукавых паліталагічных ісцін. Аўтары бестселера «Гвалт і сацыяльныя парадкі» нобелеўскі лаўрэат эканаміст Дуглас Норт і яго калегі Бары Вайнгаст і Джон Уолес выдзелілі два прынцыпова адрозных тыпы сацыяльнага парадку: натуральны дзяржавы (НД) або парадак абмежаванага доступу і парадак адкрытага доступу (ПАД).

Калі адкінуць імітацыйную мішуру, дык варта прызнаць колькасную перавагу натуральных дзяржаў у сучасным свеце. У такіх дзяржавах, *«абмяжоўваючы доступ да прывілеяў толькі чальцамі пануючай кааліцыі, эліты ствараюць надзейныя стымулы супрацоўнічаць, а не змагацца адзін з адным»*. Як гэта ажыццяўляецца на практыцы, кожны беларус мае магчымасць адчуць на ўласным досведзе, калі падасць дакументы на рэгістрацыю палітычнай партыі ці грамадска-палітычнай газеты.

Пры ПАД доступ да асноўных палітычных і эканамічных рэсурсаў з'яўляецца роўным і адкрытым. Атрыбутамі такога ладу робяцца незалежныя ад дзяржавы структуры прыватнага бізнесу і арганізацый грамадзянскай супольнасці, вяршэнства закона, надзейная сістэма прававых гарантый і свабодаў. Да пачатку XXI стагоддзя не больш за 25–30 дзяржаў здолелі падтрымаць развіццё такога парадку.

У НД пераважаюць асабістыя адносіны. Адна з найбольш папулярных формаў такіх адносін — блат. А дзе блат, там і карупцыя. Спробы барацьбы з карупцыяй у натуральнай дзяржаве чымсьці нагадваюць спробы пілаваць галіну, на якой трымаюцца ўсе НД. Такія дзяржавы не вызначаюцца стабільнасцю і не здольныя да ўстойлівага эканамічнага росту.

Таму за апошнія 15 гадоў не было ніводнага паслання АП, у якім бы не ўздымалася пытанне пра захаванне стабільнасці. Не стане выключэннем і новае чарговае пасланне, прызначанае на 19 красавіка.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ВАКОЛ КУРАПАТ

# ЛУКАШЕНКО ОЦЕНИЛ КУРОПАТЫ С «ЛИНИИ СТАЛИНА»

**Защитники Куропат и власти не найдут общего языка, пока не изменится политический режим и злодеяниям эпохи сталинизма в Беларуси не будет дана принципиальная оценка...**

Ситуацию вокруг Куропат Александр Лукашенко прокомментировал 20 апреля после субботника на «Линии Сталина». Хотел президент или нет, но получилось символично: ведь в Куропатах лежат жертвы сталинской системы. Лукашенко дал понять, что способствовал созданию историко-культурного комплекса «Линия Сталина» вопреки критике и даже противодействию (в том числе и со стороны некоторых чиновников).

Официальный лидер подчеркнул: «Да я не имя Сталина возрождал, хотя и он этого заслуживает. Я возрождал этот объект, который говорит о той части истории, которая была у нас и которую, к сожалению, на то время неправильно понимали».

Показательно, что до Куропат руки у властей дошли намного позже, хотя это урочище еще в 1993 году было внесено в Государственный список историко-культурных ценностей Республики Беларусь как место захоронения жертв политических репрессий 1930–1940-х годов.

Причем нынешнее «благоустройство» по отмашке высокого начальства — со сносом крестов, поставленных по периметру народного мемориала активистами — вызвало ропот не только среди тех, кого официальный лидер причисляет к «пятой колонне», но и среди обывателей, церковников, даже некоторых представителей номенклатуры…

**Это ценностный раскол**

Да, те, кто приходил в Куропаты все эти годы, пока верхам было наплевать на мемориальное место, в основном настроены критически по отношению к режиму. И в частности потому, что режим отдает предпочтение Сталину, а не полноценной памяти о жертвах его системы. Это мировоззренческий, ценностный раскол, и он никуда не денется.

Но властям ценности по барабану, зато действует на нервы любая несанкционированная инициатива. Властям важно взять под контроль площадку: поставить забор, ворота, вероятно — милицию. В итоге народный мемориал превратится в казенный.

А вот полноценную дань памяти жертвам высокое начальство так и не хочет отдать. Хотя четыре расследования прокуратуры подтвердили, что это место, где расстреливали сотрудники НКВД (например, почти все гильзы — от советских револьверов системы «Наган»), официальный лидер 20 апреля снова пытался затуманить вопрос: «Мы сегодня даже не знаем: это только сталинские репрессии или там хоронили и подзахоранивали еще кого-то, или там фашисты расстреливали людей... И я не сторонник, чтобы опять копошиться и рыться — от раскопок до архивов».

Этот уход от честной оценки куропатской трагедии не случаен. Как и стремление так или иначе поднять на щит Сталина.

Да, сегодняшний белорусский режим по сравнению со сталинским выглядит почти вегетарианским, но по духу он все равно репрессивный. Та же апологетика сильной руки. То же возведенное в абсолют право государства подавлять критиков режима — под маркой безопасности, борьбы с подкопами, раскачиванием лодки и т.п.

Сегодня оппонентам не стреляют в затылок из наганов (эпоха не та, откровенное людоедство уже не комильфо), но им отравляют жизнь, их загоняют в гетто. С политической альтернативой так или иначе расправляются. И это, если хотите, этакий почти гламурный сталинизм-лайт цифровой эпохи.

Так что защитники Куропат и власти по большому счету не найдут общего языка, пока не изменится политический режим и злодеяниям эпохи Сталина в Беларуси не будет дана принципиальная оценка на официальном уровне.

**Ловушки советского мышления**

Нынешний же руководитель Беларуси — до мозга костей советский человек. И в своих трактовках истории он многого недоговаривает, как недоговаривали советские учебники (да и нынешние белорусские от них по ряду принципиальных вопросов недалеко ушли).

Например, Лукашенко 20 апреля заявил, что события военных лет, которые развивались в районе «Линии Сталина», учат всегда быть готовыми к отражению агрессии: «Это урок, это та неизвестная история нашей страны, которую мы должны знать. И этот урок подталкивает нас к тому, чтобы порох держать сухим и чтобы мы всегда были готовы с любой стороны отразить агрессию против нас».

Красиво, патетично, но просятся как минимум два дополнения.

Во-первых, тяжелейшие

***(працяг на стар. 4)***

## ВАКОЛ КУРАПАТ

*(пачатак на стар. №3)*

поражения начала Великой Отечественной — это урок, показывающий, к чему привела самонадеянность и параноидальная подозрительность советского вождя, заигрывавшего с Гитлером и обескровившего репрессиями Красную Армию. Плохо, когда вождь решает всё и когда у него развязаны руки.

Во-вторых, давайте положа руку на сердце оценим, с какой стороны ныне наиболее реальна угроза белорусской независимости. Вспомним Крым. Какая страна впервые после Второй мировой совершила в Старом Свете захват чужой территории?

А сегодня Москва прижала уже Минск требованием «продвинутой интеграции», за которой маячит тихая инкорпорация. Причем прижала так, что ни дохнуть ни охнуть. И хоть морщится белорусское начальство, а не скажешь вслух всего, что думаешь насчет назойливых объятий «старшего брата»…

**Архитектор системы в капкане**

Однако дело не столько в натуре и бэкграунде крутого Бабича, успевшего за считаные месяцы изрядно насолить белорусскому начальству, сколько в том, что подобрали этого человека под новую политику Кремля в белорусском вопросе. Дали карт-бланш.

А суть политики — прессинговать белорусского партнера, требовать больших уступок при меньших затратах на него. И если фрукт созреет, то взять Беларусь голыми руками.

Сегодня мы видим, как режим, движимый инстинктом самосохранения, сворачивает даже квелую белорусизацию. Да, она укрепляла бы иммунитет против имперской идеологии, но ведь это тоже поле деятельности активных национально сознательных граждан, то есть «пятой колонны».

И потому, напротив, разворачивается новое наступление на независимое общество, включая защитников Куропат в широком смысле. Всех тех, кому снос крестов перевернул душу. Тех, кто в духовном выборе между жертвами сталинизма и Сталиным — на стороне жертв, а не палача.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**«Белапан»**

## ГАДАВОЕ ПАСЛАННЕ

# ЛУКАШЭНКА ВЯРТАЕЦЦА ДА СВАЙГО ВОБРАЗУ 1990-Х ГАДОЎ

**Лукашэнка зьбіраецца ісьці на выбары з палітычнай праграмай 1990-х гадоў, ва ўсякім разе на ўзроўні рыторыкі.**

**Пасланьне як піяр**

Відавочны перадвыбарчы характар сёньняшняга пасланьня выяўляўся ва ўсім. Тамвыразназаўважнывельмімоцны піяраўскі складнік. Лукашэнка гаварыў даволі эмацыйна, выкарыстоўваючы ўсе прыёмы прамоўнага мастацтва. Разпораз праступала тая харызма, якая так эфэктыўна працавала ў 1990-я гады. Прамова была наскрозь палемічная, ён увесь час спрачаўся зь нейкімі ананімнымі апанэнтамі. Больш чым звычайна жартаваў.

Было добра бачна, як Лукашэнка наўпрост апэляваў да тых сацыяльных груп, якія ён лічыць сваім надзейным электаратам. То бок да людзей зь нізкімі даходамі: выхавацелек дзіцячых садкоў, пэнсіянэраў, інвалідаў, шматдзетных сем'яў, жыхароў рэгіёнаў, сельскага насельніцтва.

Піяраўскі складнік найбольш выяўляўся ў выглядзе папулізму, прычым, на што варта зьвярнуць увагу, вельмі таннага. Месцамі гэта было наўпрост вяртаньне да старой, немудрагелістай папулісцкай рыторыкі 1990-х гадоў.

**Вяртаньне ў 1990-я гады**

Існуе вялікі запыт на справядлівасьць у нашым грамадзтве, кажа Лукашэнка. І тут жа кідаецца змагацца з цэнамі. Гэтаму пытаньню быў прысьвечаны вялікі сюжэт, хоць цяпер інфляцыя як раз невялікая. Лукашэнка абрынуўся з крытыкай на Міністэрства антыманапольнага рэгуляваньня і гандлю за тое, што яно не трымае цэны. Маўляў, «загуляліся ў рынак і дэмакратыю ў эканоміцы», плявацы, што там скажуць на Захадзе. Але папрок на адрас міністэрства не мае рацыі, бо найболш як раз растуць рэгуляваныя цэны.

Лукашэнка некалькі разоў нэгатыўна казаў пра рынак, грэбліва выказаўся пра малы і сярэдні бізнэс («торбешнікі і мешочнікі»), пра фэрмэраў, якія пра сялян не думаюць. ІТ — гэта добра, але прыярытэтам дзяржаўнай палітыкі зьяўляецца рэальны сэктар, «буйныя прадпрыемствы і вытворчасьці».

Адказваючы на пытаньне Канапацкай пра рынкавыя рэформы, ён адзначыў, што ягоны электарат ня ўпісваецца ў рынак, таму будзем захоўваць статус-кво.

Інакш кажучы, Лукашэнка зьбіраецца ісьці на выбары з палітычнай праграмай 1990-х гадоў, ва ўсякім разе на ўзроўні рыторыкі. У гэты канцэпт добра кладзецца і нядаўняя гучная гісторыя з бруднымі каровамі, і новы ўсплёск барацьбы з карупцыяй, і аплявуха беларускай мове, і крыжалом на Курапатах. Гэта пэўны адкат ад выбарчых кампаній і 2010, і 2015 гадоў, падчас якіх рэфарматарская рыторыка, апэляцыя на новых сацыяльных групаў грамадзтва была заўважная.

**Лукашэнка не заўважыў зьменаў у грамадзтве?**

Адмаўляючыся ад рынкавых рэформаў, Лукашэнка імкнецца законсэрваваць старую сацыяльную структуру грамадзтва, каб штучна захаваць свой электарат. Ён лічыць, што работнікі дзяржаўнага сэктару — гэта яго прыхільнікі. А да тых сацыяльных слаёў, якіх ён не бачыць сваім электаратам, стаўленьне зьлёгку зьняважлівае. Айцішнікі — разумныя людзі, але ўсё ж пры любым развіцьці тэхналёгій малако будзе даваць карова. Да моладзі, якая хоча з'ехаць у пошуках лепшай долі: хочаце пасуду мыць на Захадзе? І ўсе беларускамоўныя перапопчуцца.

Аднак, ці не памыляецца Лукашэнка ў сваім зьвяртаньні да праграмы ці нават толькі рыторыкі 1990-х гадоў? Усё ж грамадзтва зьмянілася. Сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што большасьць беларусаў станоўча ставіцца да рынкавых адносін. Ёсьць вялікія сумненьні, што Лукашэнка паранейшаму адчувае нэрв грамадзтва, размаўляе зь ім на адной мове. Вось, напрыклад, параўнальна вялікую ўвагу ён надаў спорту. Наўрад ці ягонаму электарату так цікавыя дробязі і дэталі выступаў беларускіх спартоўцаў. Ці хто з насельніцтва лічыць галоўнай падзеяў году ў краіне Эўрапейскія гульні?

**Выбары і Канстытуцыя**

Нарэшце ў пасланьні праясьнілася загадка з выбарамі. Не спраўдзіліся шматлікія прагнозы наконт таго, што першымі будуць прэзыдэнцкія выбары, і яны пройдуць гэтым годам? Лукашэнка фактычна растлумачыў: не хачу «вярцець» з выбарамі. Перакладаю на зразумелую мову. Прызначыць прэзыдэнцкія выбары на 2019 год, то бок на год раней канстытуцыйнага тэрміну — гэта значыць паказаць, што ён чагосьці баіцца, што ён слабы, няўпэўнены. А гэта дрэнны сыгнал чынавенству, замежным суб'ектам.

Пра новую Канстытуцыю. Лукашэнка зазначыў, што менавіта новаму складу Палаты прадстаўнікоў давядзецца прымаць новы Асноўны Закон. Аднак справа ў тым, што паводле дзейнай Канстытуцыі, тыя артыкулы, якія тычацца сыстэмы дзяржаўнага кіраваньня, павінны прымацца на рэфэрэндуме.

Нарэшце аб тым, чаго хацела пачуць, але не пачула палітызаваная частка грамадзтва. Маю на ўвазе важнейшую сёньняшнюю палітычную праблему краіны — беларуска-расейскі канфлікт. Думаю, Лукашэнка не хоча падліваць алей у агонь, абвастраць адносіны з Расеяй далей нейкай мяжы. І пакуль імкнецца, каб гэтая праблема была вынесена на пэрыфэрыю грамадзкай увагі. Таму гіпотэза амбасадара Бабіча, што Лукашэнка будзе ладзіць выбарчую кампанію ў вобразе абаронцы незалежнасьці, пакуль не спраўджваецца.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

## СУСЕДЗІ

# ЗЯЛЕНСКІ — ПРЭЗЫДЭНТ УКРАІНЫ

**Уладзімір Зяленскі — новы прэзыдэнт Украіны. Паводле вынікаў экзыт-полаў, ён пераможа трыюмфальна — 73% за Зяленскага, 25% — за Парашэнку. Ніколі за ўсю гісторыю незалежнай Украіны пераможца выбараў не набіраў столькі.**

Толькі ў 1991-м Леанід Краўчук атрымаў 62% галасоў. Прычым, пераважна на Ўсходзе і ў цэнтры.

Зяленскі перамог ва ўсіх без выключэньня рэгіёнах краіны. Гэта выбар усёй нацыі, а ня толькі пэўнага рэгіёну ці ўзроставай групы. Яго перамога, прычым на цалкам свабодных выбарах, падобная на трыюмфы Аляксандра Лукашэнкі ў 1994 годзе і Міхэіла Саакашвілі ў 2004 годзе.

Як сказаў Зяленскі падчас дэбатаў Парашэнку, «Я — вынік вашых памылак». І сапраўды, такі аглушальны вынік выбараў — вынік расчараваньня ў традыцыйных палітычных элітах, рэакцыя нясправджаных чаканьняў грамадзтва, якія спарадзіла «рэвалюцыя годнасьці».

Прэзыдэнт ва Ўкраіне — далёка не ўсяўладны. Але падаецца, што перамога з такім лікам паўплывае на настроі фракцыяў у Вярхоўнай Радзе. Зяленскі да выбараў не выключаў магчымасьці датэрміновага роспуску Рады.

Але гэта няпроста. Хутчэй за ўсё многія перабягуць на ягоны бок, але і апанэнты будуць пад уражаньнем аглушальнай перамогі.

Як у свой час дэмакратычны Кангрэс ЗША галасаваў за прапановы іншага прэзыдэнта-актора — Рональда Рэйгана. Бо лідэрам усіх фракцыяў — Парашэнку, Цімашэнцы, Ляшку — народ вынес сьвежы вэрдыкт. Зяленскі выйграў, а яны прайгралі. А гэта прымушае да пэўнай сьціпласьці і гатовасьці супрацоўнічаць.

Лідэрам такога тыпу небясьпеку нясуць звышновыя сілы. Прэзыдэнцтву Эмануэля Макрона нанесьлі ўдар не разгромленыя ім апанэнты, а «жоўтыя камізэлькі». Прэзыдэнту Зяленскаму небясьпечныя толькі свае «жоўтыя камізэлькі», а ня тыя, хто яму прайграў.

Магчымасьцяў заняць больш гнуткую пазыцыю адносна Расеі, Крыму і Данбасу Зяленскі мае няшмат. Расея напярэдадні дня галасаваньня нанесла моцны ўдар па эканоміцы Ўкраіны, увёўшы эмбарга на пастаўкі нафты і нафтапрадуктаў. З улікам цалкам чаканых вынікаў другога туру гэта выглядае як дэманстрацыя, што для Крамля няважна, хто кіруе ў Кіеве, ён дамагаецца саступак, у ідэале — капітуляцыі.

Але варыянты кампрамісу існуюць. З заяваў падчас кампаніі Зяленскага вынікае, што яго задача-мінімум у пытаньні Данбасу — зрабіць, каб не стралялі. Расея ўтрымлівае і Крым, але па Херсонскай вобласьці не страляюць. Канфлікт там ёсьць, вайны няма. Ня выключана, што Зяленскі зможа дамовіцца, каб не стралялі і ў Данбасе. Калі праз год Зяленскі скажа — ніводзін украінец ня быў забіты на Данбасе за маё прэзыдэнцтва, гэта ніяк ня вырашыць канфлікт, але гэта скончыць менавіта вайну.

Тэставым будзе лёс украінскіх маракоў, узятых у палон падчас інцыдэнту ў Керчанскай затоцы. Іх вызваленьне як дэманстратыўны жэст добрай волі было б знакам таго, што Масква гатовая дасягаць з новым украінскім лідэрам менавіта кампрамісаў, а не капітуляцыі.

Шлях Украіны ў Эўропу застанецца нязьменным. Але будуць скарэктаваныя яго тэмп і форма. Можна спадзявацца, што маларэальныя дэкларацыі аб хуткім уступленьні ў ЭЗ зьменяцца рэальнымі зьменамі, асабліва ў сфэры справядлівага правасудзьдзя на эўрапейскі ўзор і прынамсі зьмяншэньнем маштабаў чынавенскага крадзяжу.

Перамога Зяленскага — урок для многіх палітыкаў і інтэлектуалаў, напамін, што народ мае значэньне. А ня толькі яны і іх улюбёныя вераваньні.

Украінцы схільны расчароўвацца ў сваіх кумірах, гэтыя расчараваньні — здаецца, няўмольныя цыклі ўсёй найноўшай гісторыі краіны. Але лічбы маюць значэньне. Зрынуць праз пару гадоў праз Майдан прэзыдэнта, якога абралі 70% выбаршчыкаў — сцэнар малаімаверны.

Януковіч, дарэчы, у 2010 годзе ў другім туры набраў 49%, Цімашэнка тады атрымала 45%. Зяленскі цяпер мае вельмі важкі і устойлівы мандат, ад Майданаў у тым ліку.

Дроваў ён можа наламаць шмат. Але мяркую, што мела рацыю Сьвятлана Алексіевіч — ён, яго абраньне, паказвае старым постсавецкі элітам, у тым ліку і Лукашэнку, і Пуціну будучыню, у якой іх ужо ня будзе.

З чым украінскі народ можна толькі павіншаваць. Перамены заўсёды ўтрымліваюць рызыку. Але бязь іх не бывае руху наперад.

**Юры Дракахруст**
**Радыё Свабода**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 28.04.2019 у 16.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.